## Беласток разбудоўваецца

*Беласток — разбураны ў 80 прац. падчас апошняй вайны, з'яўляецца адным з тых гарадоў, якія (пасля Варшавы) найбольш абдудоўваюцца. Беласток не толькі абдудоўваецца але і разбудоўваецца. Пайстаюць цэлыя новыя вуліцы, фабрыкі, школы, дзіцячыя сады, магазіны і новыя жыллёвыя кварталы.*



*На ўскраінах горада, побач лесу будуецца вялікі шпітальны будынак на 700 ложак Беластоцкі 6-ціпавярховы шпіталь (такіх у Польшчы ёсць толькі два) з камплектнымі будынкамі будзе мець 145 000 кубічных мётраў і каштаваць будзе 120.000.000 зл.*

*Частка будынка шпіталя будзе аддадзена ў карыстанне ў сакавіку 1959 года, а рэшта ў 1960 годзе.*



*Гэты 7-ціпавярховы вышынны будынак на вуліцы Сенкевіча аб'ёмам 11.000 кубічных метраў будзе мець каля 90 памяшканняў. На нізе будуць уладжаны крамы, кіёскі і павільён мінеральных вод. У III квартале 1958 года будынак будзе здадзены ў карыстанне.*



*Другім такім будынкам, хаця не вышынным, з'яўляецца 4-паверховы дом на вуліцы Ліповай, які будзе мець 23,400 м кубіч. аб'ёму 190 памяшканняў і гатовы будзе ў II квартале 1958 года.*

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.

# Ніва

№ 47 (91) БЕЛАСТОК, 24 ЛІСТАПАДА 1957 г. ГОД II

# Падрыхтоўка да пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму ў Беластоку

15 верасня 1957 г. у 37 нумары «Нівы» мы выступілі з артыкулам «Дастойна ўшанаваць памяць Кастуся Каліноўскага» у якім гаварылася аб пабудове помніка Кастусю Каліноўскаму. У адказ на артыкул атрымалі шмат розных прапаноў. Між іншымі ліст ад студэнтаў з ЗША. Студэнты пішуць, што калі пачнем будаваць помнік Кастусю Каліноўскаму, яны ахвотна дапамогуць грашыма ці матэрыялам.

Бяручы пад увагу вялікае зацікаўленне грамадскасці пабудовай помніка, у Галоўным Праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбылося пасяджэнне прэзідыума на якім пастаноўлена звярнуцца да грамадскіх арганізацыяў з мэтай паклікання Камітэта па справах пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму.

### Народны універсітэт

У вёсцы Старая Камянка (Сакольскі павет) можна ўбачыць даволі цікавую карціну. Шмат гаспадароў, сярод якіх ёсць нават старэнькія людзі, нясуць у руках сшыткі, кніжкі і накіроўваюцца ў школу.

Што гэта за вучні, якая тут школа? Гэта слухачы Народнага універсітэта які нядаўна тут адкрыта. Два разы ў тыдзень сяляне слухаюць цікавыя лекцыі па розных галінах навукі.

Першы Народны універсітэт у Сакольскім павеце прыцягвае да сябе штораз больш сялян

## Разгортваецца перадвыбарчая праца

Да выбараў яшчэ больш як два месяцы, аднак праца перадвыбарчая штораз шырэй разгортваецца. Падрыхтоўка да выбараў — гэта ў сучасны момант асноўная праца прэзідыумаў народовых радаў і камітэтаў Фронта адзінасці народа.

Ва многіх ваяводствах нашай краіны камітэты фронта адзінасці народа паклікалі ўжо перадвыбарчыя групы грамадскага актыву і падрыхтоўваюцца да ацэнкі працы паасобных народовых радаў на працягу перыяду іх існавання

У самым Беластоку распрацоўваецца ўжо план выбарчых акруг. Прэзідыум Гарадской народовай рады паклікаў калектыў каардынуючы працай звязанай з выбарамі. Назначана адказных за апеку над паасобнымі камітэтамі Фронта адзінасці народа, устаноўлена праект састава членаў Выбарчай камісіі горада Беластока.

У справаздачы бюджэтнай камісіі прынята пастанову ўстанаўляючую кольнасць членаў павятовых і гарадскіх народовых радаў у Беластоцкім ваяводстве.

Да 20 г. месяца Прэзідыум Ваяводскай народовай рады распрацуе праект падзелу ваяводства на выбарчыя акругі. У асноўным, кожны павет будзе ўтвараць самастойную, асобную акругу (могуць быць выключныя моманты, у залежнасці ад абшару павета ці ліку насельніцтва). Кожная акруга атрымае па 4 да 6 мандатаў на дэпутатаў ВРН.

### 172 мільёнаў насельніцтва ў ЗША

Паводле афіцыяльных даных 1 кастрычніка 1957 года ў ЗША налічвалася 172 069 тысяч жыхароў. У параўнанні з 1950 годам лік насельніцтва павялічыўся амаль на 21 мільёнаў асоб.

### 10-кілаграмавая брыла золата

Група работнікаў шахты аб'еднання «Лензолата» выдабыла ў басейне ракі Лена (Сібір) брылу золата, якая важыла 10 кілаграмаў і 45 грамаў. Рабочыя атрымалі высокія грашовыя ўзнагароды.

## Аматары палёту на Месяц

Як падае англійскі нядзельны часопіс «The People» з 17 г.м. рэдакцыя гэтага-ж часопіса атрымала лісты ад 364 мужчын і 18 жанчын, якія заяўляюць сваю гатовасць да палёту на Месяц у касмічнай кабіне. У мінулым тыдні «The People» падаў інфармацыю, што прызначае 50 тысяч фунтаў штэрлінгаў таму чалавеку, каторы першы заляціць на Месяц і вернецца на Зямлю.

Рэдакцыя часопіса выясняе, што аматары палёту на «сярэбраны глоб» накіравалі свае заявы па неадпаведным адрасу, бо часопіс не арганізуе ніякага касмічнага падарожжа. У інфармацыі сказана, што сярод аматараў ёсць палова англійцаў, а рэшта — гэта французы, палякі, італьянцы, іспанцы, галандцы, шведы, венгерцы, бельгійцы, партугальцы, адзін японец і адзін перуанец.



*Пасёлак Дайліды — гэта вялікі квартал аднаасобных домікаў. У гэтым «гарадку» апрача крамаў школы, дзіцячых яслей будзе вялікая фабрыка выраб у цукеркаў.*
*Пасёлак Дайліды ўжо злучаны з горадам камунікацыйнай лініяй аўтобусаў ПКС.*

*Тэкст і фота — І. РЫБІНСКІ*

